www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 86 (3929)

4 лістапада 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СІТУАЦЫЯ

## «Будзем галадаць, пакуль нас не пачуе Лукашэнка...»

*З дапамогай галадоўкі былыя супрацоўнікі Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў спадзяюцца дастукацца да Аляксандра Лукашэнкі. Людзі патрабуюць, каб на заводзе быў спынены ціск і цкаванне актывістаў Свабоднага прафсаюза Беларускага.*




У апошні дзень кастрычніка з Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў былі звольнены двое рабочых — станочнік **Мікалай Жыбуль**, які адпрацаваў на прадпрыемстве 30 гадоў, і **Алег Шаўчэнка**, які аддаў заводу 16 гадоў жыцця.

Нагадаем, што нядаўна дзевяць супрацоўнікаў завода звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі з лістом, у якім пісалі пра тое, што дырэктар **Аляксандр Аграновіч** "падрывае эканамічны стан прадпрыемства", звальняючы высокакваліфікаваных работнікаў з-за іх прыналежнасці да незалежнага прафсаюза. Жыбуль і Шаўчэнка сталі апошнімі з дзевяці падпісантаў таго ліста, якія пазбавіліся працы. Яшчэ сем чалавек, што асмеліліся пайсці супраць кіраўніцтва, былі звольнены раней.

Фармальнай прычынай для звальнення рабочых стала заканчэнне тэрміну дзеяння працоўных кантрактаў. Аднак у размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" Мікалай Жыбуль распавёў, што аб магчымым звальненні іх папярэджвалі загадзя.

— Гісторыя распачалася прыкладна год таму, — расказвае ён. — Адміністрацыя, па сутнасці, абвясціла нам ціхую вайну. Тады адкрытым тэкстам было сказана: не выйдзеце з незалежнага прафсаюза — будзеце звольнены. І праўда: як толькі ў не ўгоднага кіраўніцтву чалавека заканчваецца кантракт — яго выкідаюць на вуліцу, нягледзячы на папярэднія заслугі і працоўныя дасягненні.

Дарэчы, за трыццаць гадоў працы на бабруйскім прадпрыемстве ў Мікалая Жыбуля не было ніводнага спагнання. Наадварот, рабочы меў добрую рэпутацыю — ён ветэран працы РУП БЗТДіА. Аднак за два гады і тры месяцы да пенсіі мужчына застаўся без працы.

— Напярэдадні заканчэння тэрміну працоўнага кантракта я звярнуўся да кіраўніцтва, — працягвае Мікалай Жыбуль. — Прасіў, улічваючы ўсе мае заслугі перад прадпрыемствам, кантракт працягнуць, але адказ быў наступны: у сувязі с цяжкім эканамічным станам прадпрыемства і аптымізацыяй працоўных месцаў гэта немагчыма. У суд звяртацца няма ніякага сэнсу, бо фармальна звальненне было законным — кантракт скончыўся. Але відавочна, што з прадпрыемства выціскаюцца сябры незалежнага прафсаюза, нягледзячы на іх высокую кваліфікацыю.

Адзначым, што ў лісце, адрасаваным Аляксандру Лукашэнку, рабочыя заўважалі, што за апошні час з бабруйскага прадпрыемства былі звольнены высокакваліфікаваныя спецыялісты: наладчыкі пятага разраду Дзмітрый Курмаз, Дзмітрый Сакалоўскі, Аляксандр Грамыка, наладчык шостага разраду Аляксандр Варанкін, рабочыя Аляксандр Нікітка, Андрэй Віліжанін, Віталь Садоўскі і іншыя. Усе яны — сябры Свабоднага прафсаюза Беларускага. Аб працягненні кантрактаў са многімі з іх хадайнічаў калектыў. Безвынікова!

Цяпер даведзеныя да адчаю былыя рабочыя завода гатовы пайсці на радыкальны крок — абвясціць галадоўку.

— Паколькі адказу на наш ліст ад Аляксандра Лукашэнкі няма, мы гатовы галадаць, — гаворыць Мікалай Жыбуль. — Ліст пайшоў у Мінск у сярэдзіне кастрычніка, яго адправілі на МТЗ — галаўное прадпрыемства краіны ў нашай галіне, не выключана, што ён вернецца ў Бабруйск дырэктару Аляксандру Аграновічу, чалавеку, на якога мы скардзіліся. Таму галадоўка — гэта крок, які закліканы прыцягнуць увагу прэзідэнта да нашай праблемы. Мы будзем галадаць да той пары, пакуль кіраўніцтва дзяржавы нас не пачуе. Пачакаем яшчэ пару дзён, а потым распачнём галадоўку. Спачатку папярэджальную — два-тры дні, а потым доўгатэрміновую.

Плануецца, што спачатку ўдзел у галадоўцы возьмуць чацвёра са звольненых — Алег Шаўчэнка, Мікалай Жыбуль, Аляксандр Варанкін і Аляксандр Грамыка.

Каменціруючы сітуацыю, што склалася на прадпрыемстве, старшыня Свабоднага прафсаюза Беларускага **Міхаіл Кавалькоў** адзначыў:

— Чыста па-чалавечы я разумею рабочых, якія гатовы галадаць. Іншага шляху, іншага выйсця для таго, каб быць пачутымі, няма. Ідзе цкаванне няўгодных. З нашага завода і сапраўды звальняюць лепшых спецыялістаў, тых, хто не меў наракання на працы. Людзей пазбаўляюць працы за прыналежнасць да незалежнага прафсаюза. Замест іх прыходзяць альбо зусім маладыя і нявопытныя кадры, альбо тыя, хто па тры-чатыры разы раней быў звольнены з прадпрыемства за парушэнне дысцыпліны. Я вам прывяду канкрэтныя лічбы: у момант прыходу Аляксандра Аграновіча на пасаду дырэктара наш прафсаюз налічваў каля 600 чалавек пры агульнай колькасці супрацоўнікаў 1800 чалавек. Зараз на заводзе працуе больш за 3 тысячы чалавек, сябраў нашага прафсаюза засталося каля ста...

Сваёй галадоўкай рабочыя дамагаюцца права на працу. Людзі гатовы паклаcці здароўе, аднак ці пачуюць іх на самым версе — пакуль не ясна...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

НАДВОР'Е

## Цёплы лістапад

*З пачатку гэтага тыдня ў Беларусь зноў пачало паступаць больш цёплае паветра з паўднёвага захаду Еўропы, таму надвор'е ўсталюецца досыць цёплае і камфортнае.*

У аўторак, 4 лістапада, пераважна без ападкаў. Ноччу і раніцай месцамі туман. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -3...+4°С, па паўднёвым усходзе месцамі -4...-7°С; максімальная днём +5...+11°С, па захадзе +12...+14°С. Прыблізна такое надвор'е захаваецца да канца тыдня.

У цэлым лістапад у большай частцы парадуе цёплым надвор'ем: сярэдняя месячная тэмпература чакаецца на 1?С вышэй за кліматычную норму, па паўднёвым усходзе — каля яе (кліматычная норма — -1...+3°С). Месячная колькасць ападкаў прагназуецца ў межах сярэдніх шматгадовых значэнняў, месцамі па паўднёвым усходзе краіны — менш за кліматычную норму (кліматычная норма 40—63 мм).

ЛІЧБА ДНЯ

## Алегу Румо ёсць чым пахваліцца

*У мінулым годзе ў Беларусі ўпершыню спынены рост так званага ліста чакання на перасадку ныркі.*

Пра гэта паведаміў галоўны пазаштатны трансплантолаг Міністэрства аховы здароўя **Алег Румо** на XV з'ездзе хірургаў Беларусі.

Паводле яго слоў, трансплантацыя ныркі праводзіцца ў нашай краіне кожныя 39 гадзін. Усяго зроблена каля 2000 такіх аперацый; 85 — дзецям.

Акрамя таго, праведзена 283 трансплантацыі печані (56 з іх — за 9 месяцаў гэтага года). Гадавая выжывальнасць пацыентаў складае 90%, трохгадовая — каля 85%. Дзецям зроблена 40 перасадак.

У Беларусі праведзена 154 аперацыі па перасадцы сэрца (40 — за 9 месяцаў гэтага года).

Нагадаем, што з 2011 года Беларусь — адзіная з краін СНД — фігуруе ў топ-50 краін з высокім узроўнем развіцця трансплантологіі.

ПАЛІТЫКА

## Абяліліся

***Бізнесмен Пефціеў і новы кіраўнік ФПБ Орда змогуць наведваць краіны ЕС.***

Савет Еўрапейскага Саюза працягнуў санкцыі ў дачыненні да Беларусі да 31 кастрычніка 2015 года. Аднак з "чорнага спіса" былі выключаны 24 чалавекі і 7 кампаній. Савет ЕС палічыў, што *"зніклі падставы"* для іх знаходжання ў гэтым спісе. Такім чынам, пад еўрапейскімі санкцыямі зараз застаюцца 201 чалавек і 18 юрыдычных асоб.

З каго ж зняты еўрапейскія санкцыі?

Афіцыйны часопіс Еўрасаюза апублікаваў гэты спіс:

**Уладзімір Пефціеў** (бізнесмен);

**Анатоль Тарнаўскі** (бізнесмен);

**Аляксей Міхальчанка** (журналіст АНТ, які выйграў справу аб выключэнні сябе з "чорнага спісу" ў судзе Еўрапейскага Саюза);

**Міхаіл Орда** (былы кіраўнік БРСМ, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі);

**Дзмітрый Аляксандраў** (былы суддзя Вышэйшага Гаспадарчага суда);

**Мечыслаў Часноўскі** (былы рэктар Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта);

**Пётр Кухарчык** (былы рэктар Мінскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта, памёр 2 сакавіка 2014 г.);

**Сяргей Касцян** (старшыня "Беларускага славянскага камітэта");

**Сяргей Гардзіенка** (намеснік галоўнага рэдактара газеты "СБ Беларусь сегодня");

**Аляксандр Таранда** (намеснік рэдактара газеты "СБ Беларусь сегодня");

**Галіна Тарапецкая** (намеснік рэдактара газеты "СБ Беларусь сегодня");

**Аляксей Гусеў** (былы намеснік кіраўніка ІАЦ пры Адміністрацыі прэзідэнта);

**Аляксандр Каляда** (былы член ЦВК, былы старшыня Брэсцкай абласной выбарчай камісіі);

**Надзея Кісялёва** (былы член ЦВК);

**Вячаслаў Крукоўскі** (былы старшыня Віцебскай абласной выбарчай камісіі);

**Эдуард Падаляк** (былы член ЦВК);

**Мікалай Стош** (былы кіраўнік Гомельскай абласной выбарчай камісіі);

**Святлана Акуліч** (былы суддзя Пухавіцкага раённага суда, якая вынесла рашэнне не аднаўляць на працы настаўніцу гісторыі Талькаўскай СШ Наталлю Ільініч, звольненую па палітычных матывах. Наталля і па сёння не можа знайсці месца ў беларускай школе);

**Аляксандр Хадановіч** (былы суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска);

**Ігар Крот** (былы суддзя Мінскага гарадскога суда);

**Аксана Рэлява** (суддзя Савецкага раёна Мінска);

**Іна Шайко** (былы суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска);

**Алена Ціцянкова** (былы суддзя суда Партызанскага раёна Мінска);

**Дзмітрый Юферыцын** (былы суддзя суда Ленінскага раёна Мінска).

З "чорнага спіса" ЕС таксама выключаны сем кампаній:

ПУП "БТ Тэлекамунікацыі", падкантрольнае бізнесмену Уладзіміру Пефціеву;

філіялы ТАА "Трайпл" (СТАА "НафтаХімТрэйдынг", СТАА "Трайплфарм" і ТАА "Трайпл-Вялес"), падкантрольныя Юрыю Чыжу;

Група кампаній "Юнівест-М", яе філіялы ЗТАА "Юніс Ойл" і СТАА "Юнівестбудінвест", якія кантралюе Анатоль Тарнаўскі.

АД ПЕРШАЙ АСОБЫ

## «Відаць, Пефіцева ў Еўропе любяць больш, чым мяне»



У кампаніях Пефціева і Тарнаўскага пакуль не каментуюць, ці паспрыяюць новыя ўмовы актывізацыі іх дзелавой актыўнасці за межамі Беларусі: у офісах кампаній зазначылі, што апошнія рашэнні Еўрасаюза "вывучаюцца". Тым часам Радыё Свабода пацікавілася ў Юрыя Чыжа, ці не крыўдна яму, што калег выкраслілі з "чорнага спісу", а яго — не.

**— Юрый Аляксандравіч, знялі санкцыі персанальна з Пефціева і Тарнаўскага, вас пакінулі ў "чорным спісе". Чым патлумачыце?"**

— Нават не ведаю, не цікавіўся пакуль што. Шчыра кажучы, я цяпер у адпачынку і ў прынцыпе не ў курсе справы.

**— Некаторыя вашы кампаніі, як і Пефціева, гэтаксама апраўданы. Але калі яго рэабілітавалі асабіста, то вас — не.**

— Значыць, яго вельмі моцна там любяць, у адрозненне ад мяне...

**— Той жа Пефціеў дамагаўся сваёй рэабілітацыі праз Еўрапейскі суд, вы пакінулі справу на самацёк. Можа, гэта паўплывала?**

— Цяжка сказаць. Паколькі я ніякай падрабязнай інфармацыі не маю, мне няма чаго абмяркоўваць.

БУДЗЬЦЕ ГАТОВЫ

## Спачатку праверац пашпарт, потым — тэмпературу




Пасажырам аўтобусаў на мяжы Беларусі мераюць тэмпературу. Гэта робіцца, каб выявіць людзей, якія хварэюць на ліхаманку Эбола.

У аўтобусе "Варшава—Мінск" кожнаму з пасажыраў супрацоўніца санітарнага кантролю памерыла тэмпературу спецыяльным прыборам. На экране відаць, ці не павышана тэмпература ў пасажыра. Сведкам гэтага стаў журналіст "Еўрарадыё".

Як патлумачылі ў Міністэрстве аховы здароўя, такім чынам правяраюць пасажыраў і ў аэрапорце, бо там найбольшая верагоднасць з'яўлення людзей з краін, дзе ёсць ліхаманка Эбола. Гэтаксама правяраюць пасажыраў аўтобусаў у аўтамабільных пунктах пропуску. Аўтамабілі правяраюць, толькі калі ёсць падазрэнні.

*"Калі б у вас была тэмпература, вас апыталі б: адкуль вы, з кім кантактавалі, ці былі ў краінах Заходняй Афрыкі. І калі б гэта пацвердзілася, то вас бы часова ізалявалі для назірання",* — патлумачылі ў Міністэрстве аховы здароўя.

Так, у аэрапорце ўсталяваны стацыянарныя цеплавізары, а на аўтамабільных пунктах пропуску — пераносныя.

Нагадаем, што пакуль хворых на ліхаманку Эбола ў нашай краіне не выяўлена. Але спецыяльныя заняткі па супрацьдзеянні распаўсюджванню гэтага захворвання ўжо прайшлі тысячы беларускіх урачоў.

ТРЕВОЖНО

## Кожны пяты?

Афіцыйны Мінск вылічыў, што за мяжой працуюць каля 400 тысяч беларусаў, або 7% ад агульнай колькасці працаздольнага насельніцтва. Аднак суседзі нашы называюць іншыя лічбы, якія ў разы перавышаюць афіцыйную статыстыку. Згодна з гэтымі дадзенымі, у Расіі, Польшчы, Германіі, ЗША працуюць больш за мільён беларусаў, ці кожны пяты працаздольны грамадзянін краіны. Паводле звестак цэнтра даследаванняў міграцыі CARIM, за межамі Беларусі працуе да 1 мільёна 200 тысяч нашых суайчыннікаў, паведаміла спецыяліст у галіне міграцыі кандыдат эканамічных навук **Ірына Вашко.**

ТРЕВОЖНО

## Мало жертв?

*США обвинили Россию в наращивании сил у границы с Украиной.*

Представитель совета по национальной безопасности при Белом доме **Марк Строх** сообщил, что зафиксирована тревожная активность российских войск вдоль украинской границы.

*"Мы предостерегаем Россию от того, чтобы использовать подобное незаконное голосование как предлог для того, чтобы ввести дополнительные войска и военное снаряжение в Украину, особенно в свете недавних свидетельств того, что российская армия передвигает свои силы обратно к границе вдоль районов на востоке Украины",* — сказал он.

Бывший советник Владимира Путина, экономист **Андрей Илларионов** также предупредил, что существует опасность широкомасштабного российского военного вторжения в Украину.

Он отметил, что новая угроза российской агрессии связана с победой прозападных сил на выборах в Верховную Раду:

*"Новый политический ландшафт Украины, сформированный парламентскими выборами, означает как минимум три принципиальных следствия:*

*1.Теперь Украина ушла на политический запад окончательно и бесповоротно.*

*2.Исключительный вклад в этот тектонический сдвиг в геополитической ориентации Украины и ее внутренней общественно-политической консолидации внес В.Путин.*

*3.Попытаться удержать Украину в "сфере привилегированных интересов" нынешнего кремлевского режима теперь можно только путем свержения демократически избранной украинской власти в результате прямого широкомасштабного вторжения в Украину российских регулярных войск".*

*"За последние пару дней в Донбасс зашло несколько больших военных колонн,* — рассказал наш земляк, журналист **Павел Шеремет,** который сейчас находится в Украине. — *Местные жители и военные эксперты говорят о массовой переброске российских войск, которые заходят на территорию Украины без опознавательных знаков и растекаются в трех направлениях — на Луганск, на Мариуполь и на Дебальцево. Я против паники, невозможно читать истеричные рассказы о том, как 1000 чеченцев, казаков и наемников атакуют маленький блокпост. Это паника, паразитирование на войне, игра на возбужденном сознании людей. Но предлагаю исходить из самого плохого сценария, анализируя возможный ход событий.*

*С одной стороны, эксперты уверяют, что российская армия не будет воевать зимой. С другой — все твердят о том, что без сухопутного коридора Крыму не выжить.*

*Уровень мракобесия в России по поводу Украины не спадает. Наоборот, на фоне роста цен и падающего курса рубля мракобесы громко требуют войны и победы.*

*Вдохновители новой атаки на Украину уверены, что война продлится не больше пары недель и они уложатся до сильных морозов и до встречи Путина с лидерами мира на G20 в Австралии 15 ноября. Они уверены, что стоит только посильнее надавить — и украинская армия дрогнет, как под Иловайском. Очевидно, что никого не устраивает размер территории ДНР и ЛНР и есть много желающих ее расширить".*

По мнению Павла Шеремета, *"опасность новой атаки очень высока".*

Одним словом, ситуация тревожная. Но все-таки и в этой бессмысленной войне хочется надеяться на здравый смысл.

*(Продолжение темы читайте на стр. 4—5.)*



БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

## Падалі сігнал

*Еўрасаюз павінен быў выключыць кагосьці з санкцыённага спіса, але логіку выбару зразумець складана. Такое меркаванне выказаў БелаПАН палітолаг **Валерый Карбалевіч**, каментуючы рашэнне Савета ЕС.*

*"Паколькі ЕС сам не тлумачыць логіку сваіх рашэнняў, то можна будаваць толькі здагадкі. Здагадкі гэтыя вельмі суб'ектыўныя,* — адзначыў Карбалевіч. — *Зразумела, што людзі перасталі займаць тыя пасады, на якіх ажыццяўлялі дзеянні, прызнаныя рэпрэсіямі. Іх са спіса выводзяць. Хоць гэта дзіўна, таму што гэта ж людзі здзяйснялі парушэнні, а не пасады".*

Паводле слоў палітолага, зразумець логіку рашэння аб выключэнні з санкцыённага спіса некаторых беларускіх кампаній складана. *"Але тут трэба ведаць дасканала рэальную прыналежнасць кампаній. Можа быць, там памяняліся акцыянеры. Магчыма, і яшчэ нейкая іншая логіка ў гэтым рашэнні ёсць",* — сказаў Карбалевіч.

У любым выпадку, падкрэслівае палітолаг, ЕС павінен быў выключыць кагосьці са спіса ў сувязі з цяперашнім трэндам на пацяпленне адносін. *"Таму шукалі, каго выключыць. Але па якім прынцыпе яны гэта рабілі, мне да канца не зразумела,* — сказаў Карбалевіч. — *Склалася такая сітуацыя, калі, з аднаго боку, ЕС не мог адмяніць санкцыі ці нават увесці маратoрый, як гэта было ў 2008—2010 гадах, таму што Беларусь не вызваліла палітвязняў. З іншага боку, ЕС павінен быў нейк аддзячыць за геапалітычную пазіцыю Беларусі ў дачыненні да ўкраінскага крызісу, за міратворчыя намаганні. Пытанні геапалітыкі сталі больш важныя, чым пытанні правоў чалавека".*

Паводле слоў палітолага, ЕС прыняў кампрамісную рашэнне і падаў Мінску сігнал, што гатовы праявіць гнуткасць.

СИТУАЦИЯ

# С вещами на выезд!

*Глава Центра правовой трансформации "Lawtrend", известная белорусская правозащитница **Елена Тонкачева** лишена вида на жительство в Беларуси. Елена — гражданка России, дочь военного — с 15 лет живет и работает в нашей стране.*

Пока Елена воздерживается от оценок и комментариев происходящего. Говорит, что сделает это только после того, как пройдут все юридические процедуры, в том числе попытка обжаловать решение о высылке из страны через суд. Однако, по ее словам, причиной для решения об аннулировании вида на жительство послужили административные правонарушения в виде незначительных превышений скоростного режима при управлении автотранспортным средством, зафиксированные видеокамерами.

В конце сентября, когда стало известно, что в отношении Тонкачевой начата процедура лишения вида на жительство, а саму Елену попросили доказать свою связь с Беларусью, она сделала это.

*— Могу сказать, что не писала от руки текстов много лет. Мое заявление о "связи с Республикой Беларусь" составило 14 страниц рукописного текста на бумаге формата А4. написала их на одном дыхании.*

*О своем впечатлении могу сказать так: мне представился случай дополнительно осмыслить себя.*

*Да, я переживаю эту ситуацию — она касается 30 взрослых (осмысленных) лет моей жизни.*

*Но, когда я писала от руки текст, от которого (наверное) зависит государственное решение о том, что мне будет необходимо принять изменения в своей жизни, которых я не планировала, мне пришлось вспомнить и признать в своей жизни следующее:*

*— моего прадеда по материнской линии расстреляли в 1937-м;*

*— мой прадед по отцовской линии — священник;*

*— моя бабушка по материнской линии — депутат Верховного Совета СССР;*

*— мой дедушка по отцовской линии — Герой Советского Союза за военные заслуги в период Второй мировой войны;*

*— мой дедушка по материнской линии имел многочисленные ордена и медали за период Второй мировой войны;*

*— мой отец — высокопоставленный офицер Советской Армии в отставке, инженер авиации;*

*— моя мама посвятила себя семье (имея достаточное количество талантов).*

*Вся моя взрослая жизнь с 15 до 44 лет непосредственно связана с Беларусью.*

*Наша семья приехала из Москвы в Беларусь, в город Быхов Могилевской области, так как мой отец (кадровый офицер) после окончания с красным дипломом Академии Жуковского, имея академическое предложение на кафедре в Москве, так решил. Папа тогда сказал, что реальная авиация и люди важнее для него, чем академическое знание. Для семьи его решение было сложным, но семья последовала за ним. Мой отец ушел из Вооруженных сил с должности главного инженера авиации Балтийского флота.*

*Когда отца перевели из Беларуси служить в Россию, я уже училась в Белорусском государственном университете на юридическом факультете, и с тех пор вся моя самостоятельная жизнь строилась тут.*



*Мой бывший муж — отец моей дочери (гражданки Республики Беларусь) — был депутатом Верховного Совета 13-го созыва.* (Бывший муж Елены Тонкачевой — известный экономист Павел Данейко, он подписал обращение в Конституционный суд об импичменте президенту. — **Ред.**) *Кто помнит еще тот период, тот поймет.*

*Когда депутаты Верховного Совета 13-го созыва находились в заблокированном здании парламента, то к квартирам их родственников "выставили охрану". Мне было 25 лет, у меня на руках была дочь, которой не было года, и собака, которой нужно было выходить во двор по нужде. Но возле двери нашей квартиры стояли вооруженные люди. И мне было страшно — ОЧЕНЬ — дома одной все решения принимать самой. Тогда нужно было определять: закрыть дома дочь, которой не было года, и выйти быстро выгулять собаку мимо вооруженных людей или не высовывать из квартиры носа. По итогу, я давилась от приступов рвоты и подтирала за собакой, которая в ужасе гадила в квартире, когда уже не могла больше терпеть. Как бы сейчас нелепо это ни звучало, но эти дни были для меня сильным личным испытанием и оскорблением.*

*Эта история сказалась на мне. Мне все эти годы было психологически сложно попросить о белорусском гражданстве именно того человека, который в моем представлении был недостоин моей персональной просьбы по этому поводу. Так дотянулось до настоящего времени.*

*К 45 годам понимаю, что, возможно, эмоции были излишни. Но... это моя жизнь. У меня есть семья, вера, принципы, семейное и профессиональные понятие о чести и долге.*

"Связь с Беларусью", казалось бы, очевидна для любого здравомыслящего человека. Но только не для белорусских компетентных органов.

*— Утром 30 октября мне позвонили из Управления внутренних дел администрации Первомайского района Минска и пригласили для получения решения об аннулировании вида на жительство в Республике Беларусь. Меня также уведомили о дальнейшей процедуре, которую я должна пройти. В течение месяца со дня получения уведомления я обязана выехать из Республики Беларусь, а в течение ближайших пяти дней с момента уведомления должна зарегистрироваться для временного пребывания на территории Республики Беларусь. То есть со вчерашнего дня мой вид на жительство недействителен, я должна его сдать и зарегистрироваться для временного пребывания в Беларуси сроком на один месяц,* — сообщила Елена Тонкачева. — *У меня есть возможность обжаловать это решение в судебном порядке.*

Вот текст уведомления за подписью главы УВД администрации Первомайского района подполковника А.В.Паращука: "Сообщаем, что решением УВД администрации Первомайского района г.Минска от 29.10.2014 Вам аннулировано разрешение на постоянное проживание в Республике Беларусь. Согласно части четвертой статьи 57 Закона, в случае, если разрешение на постоянное проживание, выданное иностранцу, аннулировано и не имеется других законных оснований для его пребывания в Республике Беларусь, иностранец обязан выехать из Республики Беларусь в течение одного месяца со дня его уведомления о принятом решении об аннулировании разрешения на постоянное проживание. Также Вам необходимо зарегистрироваться в органе регистрации по месту фактического временного пребывания на срок до выезда из Республики Беларусь. В соответствии со статьей 72 вышеупомянутого Закона решение об аннулировании разрешения на постоянное проживание в Республике Беларусь может быть обжаловано в вышестоящий государственный орган, вышестоящему должностному лицу в течение года со дня принятия такого решения".

Впрочем, не исключено, что даже этого месяца на сбор вещей у Елены Тонкачевой не будет.

*— 30 октября мне вручили еще один документ, который называется "Уведомление о рассмотрении вопроса о высылке из Республики Беларусь". "В интересах общественного порядка" начата еще одна процедура, собственно, по принудительной высылке из страны. Как мне пояснили в управлении, рассмотрение вопроса о принудительной высылке назначено на 12.00 5 ноября. Мне предложено лично присутствовать при рассмотрении вопроса о высылке с возможностью давать объяснения, предоставлять дополнительные сведения и документы, указывающие на обстоятельства, которые имеют значение для решения вопроса. Конечно же, я намерена 5 ноября посетить заседание этой комиссии и, вне всякого сомнения, буду использовать все аргументы, которые я перечислила выше, чтобы решение было рассмотрено в мою пользу.*

По словам Елены Тонкачевой, "лишение вида на жительство — это, конечно, очень неприятно и болезненно, но, по крайней мере, оно оставляет мне право в течение 90 дней на протяжении календарного года пребывать на территории Беларуси". В случае же принудительной высылки органами по миграции будет определен срок, в течение которого я не смогу въезжать в Беларусь вовсе.

*— Учитывая, что у меня здесь живет дочь, есть имущество, учитывая, что в Российской Федерации у меня нет ни прописки, ни собственности, и даже представления о том, куда бы я там могла поехать, перспектива, мягко говоря, неприятная.*

Действительно, "ситуация неприятная" — это неадекватное определение происходящего. Елена — один из самых известных и самых активных белорусских правозащитников. Высылка из страны — в никуда, без права въезда — это, по мнению многих, демонстративно жестокое наказание за гражданскую активность. Если это не политические репрессии, то что?

**Олег СНОВ.**

РЕЗОНАНС

## «Очевидная неадекватность...»

Председатель Совета при президенте России по развитию гражданского общества и правам человека **Михаил Федотов** обратился к руководству МИД России с призывом оказать срочную поддержку российской гражданке, правозащитнице **Елене Тонкачевой**, которой грозит высылка из Республики Беларусь.

*"Очевидная неадекватность примененной властями Республики Беларусь санкции за малозначительное правонарушение заставляет предполагать, что реальным мотивом высылки российской гражданки является правозащитная деятельность Елены Тонкачевой. Властий не остановило ни то, что здесь у Елены находится семья, работа, квартира, личные и профессиональные связи, ни то, что наши страны образуют Союзное государство, а граждане наших стран пользуются равными правами",* — подчеркивают в СПЧ РФ.

Совет просит российское внешнеполитическое ведомство оказать Елене Тонкачевой всю необходимую поддержку, защиту и покровительство, как это и предусмотрено статьей 61 Конституции Российской Федерации.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Мальцаў і іншыя

*У Мінскім абласным судзе працягваюцца слуханні па крымінальнай справе ў дачыненні да былога генеральнага дырэктара ААТ "Барысаўдрэў" **Уладзіміра Мальцава.***

Нагадаем, што былы генеральны дырэктар абвінавачваецца ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі ў ходзе выканання дзяржпраграмы па мадэрнізацыі прадпрыемства, якое прывяло да цяжкіх наступстваў у выглядзе нанясення ўрону ў асабліва буйным памеры. Сярод наступстваў дзеянняў гендырэктара пракуратура выставіла зрыў тэрмінаў рэалізацыі дзяржаўнай праграмы па мадэрнізацыі.

Адзін з пунктаў абвінавачання тычыцца закупу і мантажу для прадпрыемства двух паравых катлоў вытворчасці турэцкай фірмы. Мальцаў нібыта забяспечыў гэтай фірме перамогу ў тэндары на пастаўку катлоў, хоць былі іншыя пастаўшчыкі. Потым, паводле меркавання следства, туркі несвоечасова прадставілі дакументацыю, спазніліся з пастаўкай катлоў, не мелі дазволу на мантаж абсталявання. А Мальцаў, як вынікае з абвінавачання, іх прыкрываў дзеля "кар'ерных меркаванняў", "дзейнічаў насуперак эканамічнай мэтазгоднасці". У выніку былі сарваны тэрміны мадэрнізацыі "Барысаўдрэва", якія прызначыў урад і асабіста Аляксандр Лукашэнка, а прадпрыемства панесла вялікія страты.

Зараз судовае следства выйшла на новы ўзровень — дапытваюць высокіх чыноўнікаў.

Як паведамляюць naviny.by, на судзе намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама **Валерый Скакун** распавёў, што турэцкая кампанія адмовілася прадастаўляць дакументацыю на абсталяванне кацельнай, без чаго немагчыма было правесці мантаж. Сітуацыя абвастралася тым, што ніводная беларуская фірма не бралася за такую работу. У выніку, каб выйсці з тупіковага становішча, была праведзена нарада з удзелам першага віцэ-прэм'ера **Уладзіміра Сямашкі**, паводле вынікаў якой быў накіраваны ліст ва ўрад. Падпісаліся пад ім акрамя Скакуна міністр архітэктуры і будаўніцтва **Анатоль Нічкасаў** і кіраўнік канцэрна "Беллеспаперпрам" **Аляксандр Пераслаўцаў.**

Паводле слоў Скакуна, юрыдычная служба Саўміна не знайшла нічога супрацьзаконнага ў тым, каб турэцкая кампанія выступіла субпадраднай арганізацыяй пры мантажы кацельнага абсталявання, а свой подпіс пад пастановай Саўміна №324 *(гэтым дакументам турэцкая кампанія Bersey і прызнавалася (чытайце — прызначалася) падраднай арганізацыяй)* паставіў кіраўнік урада **Міхаіл Мясніковіч**.



На працэсе таксама ўзнікла спрэчка паміж сведкамі — намеснікам міністра архітэктуры і будаўніцтва **Сяргеем Ластачкіным** і гендырэктарам аб'яднання "Івацэвічыдрэў", былым дырэктарам канцэрна "Беллеспаперапрам" **Уладзімірам Шульгой**.

Як выявілася, яны па-рознаму бачаць прычыны, з-за якіх было замаруджана будаўніцтва новай кацельнай на "Барысаўдрэве" і ў выніку быў сарваны графік мадэрнізацыі прадпрыемства, інфармуе Радыё Свабода.

**Сяргей Ластачкін** мяркуе, што турэцкая фірма, якая паставіла масленыя катлы на прадпрыемства, паводле кантракта павінна была і зманціраваць іх на новай пляцоўцы. Ён прызнаў, што мантаж у кантракце з туркамі асобна не быў агаворваны, але, на ягоную думку, такі абавязак вынікаў з таго, што кантракт прадугледжваў установку новага абсталявання і яго запуск "пад ключ". Паводле слоў намесніка міністра архітэктуры і будаўніцтва, такую практыку дыктуюць законы Беларусі.

*"Не трэба ўводзіць у зман палову краіны,* — сказаў на судзе **Уладзімір Шульга**. — *З-за гэтага меркавання страцілі год пры будаўніцтве кацельнай, а Мальцаў апынуўся за кратамі. Мантаж — гэта асобныя працы, якія каштуюць немалых грошай. Пра іх трэба дамаўляцца асобна і агаворваць усё ў кантракце".*

Працяг чакаецца...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СТАЛІЦА

## Не хочаш — прымусяць

Мінгарвыканкам прапануе ўвесці абавязковае працаўладкаванне для даўжнікоў па аліментах і жыллёва-камунальных паслугах.

Пра гэта паведаміла журналістам старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама **Жанна Рамановіч.**

*"Лічым, што асобныя катэгорыі грамадзян сёння трэба ўладкоўваць на працу па пастанове суда,* — сказала спадарыня Рамановіч. — *Таксама прапануецца скараціць перыяд знаходжання на ўліку па беспрацоўі з 36 да 18 месяцаў".*

Паводле яе слоў, у дадзены момант прапановы Мінгарвыканкама дапрацоўваюцца і будуць накіраваны на разгляд ва ўрад.

ДЫПКУР'ЕР

## Удвая больш амерыканскіх віз

Пасольства ЗША пашырыла колькасць катэгорый грамадзян, якія могуць звяртацца па амерыканскія візы ў Мінску, паведаміў у эксклюзіўным інтэрв'ю БелаПАН Паверанны ў Справах ЗША ў Беларусі **Скот Роланд**.

Гэта стала магчымым дзякуючы таму, што з ліпеня ў дыпмісіі пачаў працаваць шосты амерыканскі супрацоўнік, які поўнасцю займаецца консульскімі пытаннямі. Як вядома, з 2008 года, пасля таго як ЗША ўвялі санкцыі ў дачыненні да канцэрна "Белнафтахім" у сувязі з парушэннямі беларускімі ўладамі правоў чалавека, беларускі пасол быў адкліканы з Вашынгтона. Пасольства ЗША ў Беларусі было вымушана скараціць свой штат з 35 да пяці чалавек і адклікаць пасла з Мінска.

З таго часу практычна ўсе беларускія грамадзяне вымушаны былі звяртацца па амерыканскія візы ў пасольствы ЗША ў іншых краінах. У Мінску візы выдаваліся толькі тром катэгорыям грамадзян: асобам, старэйшым за 70 гадоў, людзям, у якіх надзвычайныя акалічнасці, і часта з-за медыцынскіх прычын, а таксама беларускім афіцыйным асобам пры ўмове наведвання ЗША з афіцыйнай мэтай. З ліпеня гэтага года апрача трох названых катэгорый па візы ў Мінску могуць звяртацца студэнты і ўдзельнікі праграм абмену.

*"У чэрвені мы выдалі 70 віз, а ў верасні — 160",* — падкрэсліў кіраўнік амерыканскай дыпмісіі.

ШКОЛА

# Чым Анатолю Тозіку не спадабаліся школьныя канікулы?

*Віцэ-прэм'ер Беларусі **Анатоль Тозік** узяўся за школы. Ён лічыць, што наша агульнаадукацыйная школа саступае школам іншых краін з-за больш кароткага навучальнага года. Пра гэта ён заявіў на пасяджэнні прэзідыуму Савета міністраў падчас разгляду выніковай справаздачы рабочай групы, створанай па даручэнні прэзідэнта для комплекснага аналізу сістэмы адукацыі.*

Такія заявы віцэ-прэм'ера могуць мець вялікія наступствы. Але Анатоль Тозік не настаўнік. Што думаюць пра ягоную ініцыятыву тыя, хто мае педагагічны досвед?

Ці павялічыцца эфектыўнасць адукацыі ў беларускіх школах, калі яны пяройдуць на шасцідзёнку ці скароцяць час вакацый? Гэтае пытанне "Народная Воля" высвятляла ў настаўніцкім асяродку, у тых, хто ведае праблемы школы на практыцы.



**Уладзімір КОЛАС, дырэктар гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, таго самага ліквідаванага ўладамі беларускамоўнага ліцэя, які ўжо некалькі гадоў працуе ў падпольных умовах:**

— Павелічэнне тэрміну навучальнага года па сутнасці нічога не зменіць. Гэта нейкая імітацыя дзейнасці ў галіне адукацыі. Каб палепшылася якасць навучання, трэба добра вучыць. Гэта значыць, трэба, каб у школе былі добрыя настаўнікі. А для таго, каб там былі добрыя настаўнікі, ім трэба папросту сумленна плаціць заробкі. У настаўнікаў павінна быць магчымасць спакойна працаваць, і не трэба ім дурыць галаву ўсялякімі там новаўвядзеннямі, бо адукацыя не любіць такіх рэзкіх паваротаў. Колькі трэба нагрузкі, які павінен быць тэрмін канікул — гэта справа настаўнікаў, бацькоў, усяго калектыву школы. Кожная школа павінна атрымаць больш свабоды, бо школа — гэта калектыў вучняў з нейкімі сваімі асаблівасцямі. Нават ад нейкага класа ці ад усёй школы можа залежаць, колькі нагрузкі трэба даваць. А вось абавязак дзяржавы — усяго толькі вызначаць стандарты. Ёсць праграма, а як яе выконваць, павінны вырашаць самі настаўнікі.

**Тамара МАЦКЕВІЧ, намеснік старшыні ГА "Таварыства беларускай школы":**

— Праблема ў эфектыўнасці. Калі мы не будзе закранаць змест, метады і больш грунтоўныя рэчы, а будзем глядзець толькі на колькасць гадзін, на колькасць гадоў навучання, нават на заробак настаўнікаў, то нічога не зменім. Школа састарэла як па змесце і метадах, так і па сістэме кіравання. Сістэма павінна быць больш гнуткая, бо жыццё мяняецца і трэба хутка пад яго падстройвацца. Калі гэтага не змяніць, то фармальныя змены нічога не дадуць.

Што тычыцца падаўжэння навучальнага года, то, сапраўды, скарацілі да таго, што тэрмін навучання зараз меншы, чым у іншых краінах. Але, з іншага боку, ёсць прыклад Фінляндыі, дзе самы меншы тэрмін навучання ў Еўропе, але эфектыўнасць вельмі высокая. Шмат дзе дзеці самастойна працуюць у школе, менавіта ў школе робяць дамашнія заданні. І толькі калі дзіця нешта не паспела, то можна дарабіць дома. Ёсць і формы дыстанцыйнага навучання. Наша школа архаічная. Яна некалі адпавядала індустрыяльнаму грамадству, але мы даўно маем не індустрыяльнае, а інфармацыйнае грамадства. Вось толькі нашай школы гэта нібыта не тычыцца — па-ранейшаму рыхтуем салдат, якія мусяць стаяць у станка. Аднак сёння нават працоўным сілам патрэбны іншыя якасці. Ні школа, ні вышэйшыя навучальныя ўстановы такіх выпускнікоў не рыхтуюць.

Мне падаецца, што ўрад не пойдзе на скарачэнне канікул, бо тады давядзецца больш грошай плаціць настаўнікам. А так 56 дзён адпачынку, падчас якога яны не атрымліваюць ні за класнае кіраўніцтва, ні за нейкія іншыя рэчы — толькі аклад.

Лічу, што нічога не зменіцца і ў папяровай працы. На практыцы ўсе звёны, якія існуюць паміж настаўнікам і ўладай, будуць даводзіць яму шмат непатрэбнай папяровай працы, бо ўсім гэтым супрацоўнікам у рана, гарана і г.д. трэба ж нечым займацца. Пакуль іх не скароцяць, нічога не зменіцца. У іх нават зайздрасць да настаўнікаў з'явілася: маўляў, вам за катэгорыю больш плацяць, ну дык мы вас завалім паперамі.

**Валянціна СІЎКОВІЧ, настаўніца беларускай мовы, аўтар падручнікаў і дапаможнікаў:**

— Я не ведаю працоўнага шляху спадара Тозіка, не ведаю, ці працаваў ён калі звычайным настаўнікам. Але ўсе праблемы школы палягаюць у тым, што рознымі рэформамі займаюцца чыноўнікі. Для таго, каб разумець, што ўплывае на якасць ведаў, трэба прапрацаваць у школе як мінімум гадоў дзесяць. Калі нейкія змены ў навучанні штучна ствараюцца ў кабінеце, то гэта толькі разбурае рэшткі сістэмы. А сама сістэма ў нас была. І з той сістэмай нашы дзеці цудоўна паступалі ў ВНУ (канешне, не 100%, але пасляховасць была добрая). Яшчэ 15—20 гадоў таму паступалі без рэпетытараў. Сістэму мянялі цягам дзесяці апошніх гадоў. Праўда, я не чула, каб нехта хваліўся тым, што далі тыя змены, які ўплыў яны мелі на школу, як змянілі вынікі хаця б у атэстатах і на ЦТ. Хто-небудзь адказны за гэта? Чаму ў нас той, хто прымае нейкія рашэнні і разбурае сістэму, ні за што не адказвае? Калі ёсць нейкая дысертацыя аб тым, што патрэбна 12-гадовае навучанне з нейкімі там вылічэннямі і г.д., то трэба, каб гэты чалавек і нёс адказнасць за свае высновы. Калі няма — то, прабачце, гэта чарговая авантура.

Трэба аналізаваць вынікі, дзе плюсы, дзе мінусы. Трэба думаць. Разбурана ж ушчэнт усё, што некалі было. У школе галоўныя тры рэчы: **праграма, падручнік, настаўнік.** Вось тут і трэба шукаць слабыя звёны нашай сярэдняй адукацыі. А дадаваць канікулы ці скарачаць іх — гэта не залежыць ні ад настаўніка, ні ад падручніка, ні ад праграмы. Калі зрабілі праграму, то трэба яе аналізаваць. У нас чынавенства мяняецца, і кожны нешта прапаноўвае. Яны ўвялі, а школа нясі адказнасць. Колькі можна круціць настаўнікамі? Настаўнікі сыходзяць са школы, бо ніхто не ведае, што там яшчэ заўтра прыдумаюць. Я некалі, маладая настаўніца, у вясковай школе пісала планы, потым на наступны год глядзела чарнавік, рабіла допісы, што яшчэ трэба ўнесці, каб удасканаліць навучанне. Я бачыла ў перспектыве, на што магу вывесці вучняў, як зрабіць, каб сачыненні не былі падобныя адно на адно? Так і настаўніку цікава працаваць, і вучню. А тое, што сёння ўкідваюць у настаўніцкую супольнасць зверху, папросту ні на што не ўплывае.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЧУЛІ?

## Крэдытныя стаўкі ў — Расіі 12—15%, у Беларусі — 30—40%

На сумесным пасяджэнні абедзвюх палат беларускага парламента намеснік прэм'ер-міністра **Уладзімір Сямашка** заявіў, што крэдытныя стаўкі, пад якія выдаюць крэдыты беларускія банкі, *"фантастычныя": "На Захадзе можна ўзяць крэдыты пад 2—3%. У нас стаўкі — 30—40%, а раней дасягалі і 50%".*

*"Пры такіх стаўках немагчыма развівацца",* — канстатаваў Сямашка. У Расіі, зазначыў віцэ-прэм'ер, крэдыты ўзяць можна пад 12—15%. У такіх выпадках, сказаў ён, дзяржава вымушана кампенсаваць страты прадпрыемстваў ад высокіх ставак крэдытаў. *"Дзяржава кампенсуе палову ставак па крэдытах, а ў асобных выпадках можа на сябе ўзяць і 100% абавязацельстваў"*, — заявіў Сямашка.

## Сюрпрыз ад аўтазаправак

У Беларусі з 1 студзеня 2015 года на аўтазапраўках будуць прадаваць дызельнае паліва толькі экалагічнага класа К5.

Пра гэта паведаміла прэс-сакратар канцэрна "Белнафтахім" **Марына Касцючэнка.** Справа ў тым, што Тэхнічны рэгламент Мытнага саюза дазваляе продаж на тэрыторыі нашай краіны дызпаліва экалагічнага класа К4 толькі да 31 снежня 2014 года.

Праўда, плануецца, што цана на паліва ДТ-К5 захаваецца на ўзроўні ДТ-К4. Аднак, як мы ведаем, планы не заўсёды супадаюць з рэальнасцю.

НУ І НУ!

## Колькі каштуе жыццё?

Магілёўскі суд ацаніў жыццё журналіста **Вадзіма Аршынскага** ў 30 мільёнаў беларускіх рублёў. Такое рашэнне выклікала абурэнне ў родных загінуўшага.

Яны збіраюцца павялічыць суму кампенсацыі праз Магілёўскі абласны суд. Вадзім Аршынскі трагічна загінуў 2 лютага 2010 года ў выніку абрушэння драўлянага навесу над пад'ездам свайго дома. Следчыя высветлілі, што абрушэнне адбылося не ў выніку рамонтных работ, якое праводзіла ЖЭУ Ленінскага раёна Магілёва, а праз вялікую масу снегу, што скапілася на навесе.

ЖЭУ Ленінскага раёна толькі часткова прызнала сваю віну, аднак паводле вынікаў следства стала вядома, што абрушэнне адбылося праз безадказнае стаўленне службовых асоб да сваіх абавязкаў: ніхто не разлічваў нагрузкі, якія можа вытрымаць збудаваная рамонтнікамі канструкцыя.

У выніку адказнасць панёс толькі дырэктар ЖЭУ. Яму была вынесена афіцыйная вымова. З заяўленых Міхаілам Аршынскім, сынам загінуўшага журналіста, 500 мільёнаў рублёў у якасці маральнай кампенсацыі за смерць бацькі суддзя пастанавіў выплаціць толькі 30 мільёнаў рублёў.

Вадзім Аршынскі доўгі час працаваў відэаапературам. Супрацоўнічаў з незалежным тэлеканалам "Белсат".

УСПАМІНЫ

# Васількі ад Аляксея Карпюка

Я памятаю той дзень, калі ён увайшоў у чытальную залу бібліятэкі Педагагічнага інстытута, трымаючы ў руцэ букецік блакітна-сініх васількоў. Накіраваўся да стала, дзе я штосьці пісала. Ціхенька прывітаўся і дадаў: "Гэта вам!" Я глядзела то на васількі, то ў вочы Аляксея Нічыпаравіча Карпюка. Адчуўшы маю разгубленасць, пісьменнік шапнуў мне на вуха: "Васілёк — гэта кветка зямлі беларускай, кветка Максіма Багдановіча. У яе прыгажосці — краса і чысціня беларускай дзяўчыны". У тую хвіліну мне здалося, што з блакітна-сінім букецікам Аляксей Нічыпаравіч перадаў мне нешта больш важнае — талісман, разуменне Радзімы і часцінку свайго сэрца, улюбёнага ў Беларусь. Для мяне ён, і той даўнішні, — і сёння жывы.

Днямі некалькі разоў перачытала аповесць "Па кветку шчасця" — адзін з шэдэўраў А.Карпюка. Там маладосць, прыгажосць, чысціня юнацкіх памкненняў і высокая чалавечнасць, да якой пісьменнік імкнуўся падвысіць узровень чытача. Усё гэта не аджыло, яно жыве і па сённяшні дзень.

У сваёй "Кветцы" пісьменнік акцэнтуе ўвагу на высокім палёце чалавечай сутнасці. Яго праўдзівае слова — гэта і эмоцыі, і маштабнасць думкі, і філасофская глыбіня — падказка, як трэба жыць. Ён не пытаецца, хто мы такія, чаму і чаго мы тут. Ён ведае: мы прыйшлі сваім словам расплюшчыць вочы напаўсляпым; расквецiць іх душы, калі яны дрэмлюць; накіраваць сэрца чалавека. Каб яно разам з розумам дапамагло задумацца: калі ты беларус, то трэба размаўляць па-беларуску, і шанаваць сваё роднае слова, і множыць уласнай працай нашу беларускую культуру.

Аляксей Карпюк інтэлігентна патрабуе не дапускаць улады над душою чалавека. Зняволеная душа, тым больш пад прымусам, губляе творчы патэнцыял. Душа павінна заставацца вольнай, а чалавек не павінен быць прымітыўным, банальным.

Лепшы твор А.Карпюка пра каханне — раман "Данута" — упершыню быў надрукаваны ў гродзенскім альманаху "Нёман" у 1958 годзе. Але на працягу наступных 20 гадоў аўтар дапрацоўваў і перапрацоўваў яго трыццаць тры разы. "Данутай" зачытваюцца і па сённяшні дзень.

А яшчэ назаўсёды застаўся ў маёй памяці вечар сустрэчы з дэлегацыяй літоўскіх паэтаў, пісьменнікаў, журналістаў, кінарэжысёраў у Гродзенскім педагагічным інстытуце... Было гэта 22 лістапада 1956 года. Я — студэнтка трэцяга курса гісторыка-філалагічнага факультэта — у прэзідыуме. Хвалююся — мне даручылі вітаць-віншаваць літоўскіх творцаў. Яны прыбылі пазнаёміцца з Гродна. І ў першую чаргу — з беларускімі літаратарамі.

У маім архіве знаходзіцца ліст-віншаванне, у якім зафіксаваны мае словы ў афарбоўцы інтэрнацыянальна-марксісцка-ленінскай ідэалогіі. Мне сёння за тое крыху сорамна, але "быў час, быў век, была эпоха"... Выступалі госці з Вільнюса, Каўнаса, Прэная. Выступіў на тым вечары "дружбы народаў" пісьменнік Аляксей Карпюк. Пасля бралі слова выкладчык беларускай мовы, паэт Міхась Дуброўскі, пісьменнік Мікалай Каралёў, паэт Пятро Макаль. Прыехаў на сустрэчу паэт з Навагрудка Гаўрыіл Шутэнка. Ён чытаў свае вершы па памяці. З вайны паэт вярнуўся інвалідам: там засталіся яго вочы, яго зрок. Тэматыка яго творчасці — жыццё і шчасце чалавека, любоў да Радзімы, каханне...

Пра свае творчыя дасягненні і планы расказала магістр Марыяна Кілінска з Варшавы. А расказвала яна гэта ўсім прысутным на беларускай мове. Карыстанне нашай мовай быў дакор у наш бок за наша родназабыццё.

Мы з цікавасцю слухалі літоўскага пісьменніка і кінарэжысёра Антанаса Жобакаса. Пратанцаваўшы з ім адзін толькі вечар, мы зладзілі перапіску аж на 25 гадоў. Яго цікавыя лісты захоўваюцца ў маім архіве.

У перапынку паміж танцамі да мяне падышоў Аляксей Нічыпаравіч. Павіншаваў са святам і дадаў: "Прыміце на будучае: звярнуцца да літоўцаў трэба было на роднай мове. А то неяк не па-людску атрымалася. Жывём у Беларусі, дык да чаго ж тут, у гэтым асяродку культуры, саромецца сваёй мовы?.. Наступная наша ўрачыстасць будзе прысвечана Міхасю Васільку. Я чакаю пачуць ад вас беларускае слова. Запрашэнне і план вечара перадам". Развітваючыся, Карпюк сказаў: "Не гасі тое, што не гасне! Гэта родная мова!" У той вечар я атрымала добры ўрок-напамінак на ўсё жыццё. Адчувала сябе вельмі і вельмі няёмка за сваё віншаванне ў адрас гасцей не на мове роднай зямлі.

У студэнцкія гады была членам рэдкалегіі газеты "Маладыя галасы". На пяцімінутках члены рэдкалегіі атрымлівалі азы па журналістыцы, засвойвалі цікавую, складаную паэтычную "кухню". Нашымі настаўнікамі былі Аляксей Карпюк, Міхась Васілёк, Васіль Быкаў, Міхась Дуброўскі... Мне яны здаваліся незвычайнымі, недасягальнымі. Я лічыла іх багамі, якія з нябёс спусціліся ў нашу аўдыторыю.

Я пастаянна працавала ў чытальнай зале бібліятэкі інстытута. Мяне тут захапляла асаблівая, амаль святая цішыня. Перагортваючы старонкі кніг, мы, амаль не дыхаючы, стараліся не парушаць яе. Цішыня гэта дзейнічала на нас магічна.

Часта ў залу заходзіў Аляксей Нічыпаравіч. Размашыста адчыніўшы дзверы, пераступіўшы парог, салідны мужчына з вялікім пацёртым партфелем акідваў цікаўным позіркам студэнтаў, якія, сагнуўшыся над сталамі, рупліва нешта перапісвалі з кніг у свае канспекты. Знайшоўшы мяне, падыходзіў, прасіў прабачэння і дазволу прысесці побач. З аднаго боку, я ганарылася, што побач са мною сядзіць сам А.Карпюк. Але сваімі пытаннямі, на якія трэба было даваць канкрэтныя, грунтоўныя адказы, ён перашкаджаў мне нешта дачытаць, дапісаць. Аднак гэта ж быў сам Аляксей Карпюк!

Аляксей Нічыпаравіч як ні ў чым не бывала даставаў вучнёўскі сшытак і самапіску, падсоўваўся да мяне бліжэй і шаптаў на вуха, каб не перашкаджаць у рабоце тым, хто быў недалёка ад нас. Ён ужо ведаў, што я з Навагрудчыны, што там скончыла Любчанскую сярэднюю школу і што з дзяцінства марыла быць настаўніцай. Не прамінаў, каб не запытацца, што я чытаю з класікаў беларускай літаратуры. Праглядаў мае канспекты (і цяпер яны, мае сябры, са мною), дзе я рабіла запісы аб прачытаных кнігах: кароткі змест, тэма, ідэя, рысы характараў герояў, што палюбіліся, выпіскі афарызмаў. Усё гэта мне вельмі дапамагала пазней для працы ў школе. Даваў пісьменнік мне рэкамендацыі, каго і што прачытаць абавязкова; нават са сваёй хатняй бібліятэкі прыносіў мне кнігі... Мне было цікава даведацца, што галоўных гераінь сваіх твораў ён надзяляе рысамі майго характару.

Пазней ён падарыў мне са сваімі аўтографамі і "Дануту", і "Дзяўчыну з Ваўкавыска", і "Свежую рыбу", і "Пушчанскую адысею". Аляксей Нічыпаравіч вельмі далікатна ставіў свае пытанні да мяне: хто мае бацькі, чым я займаюся ў вольны ад заняткаў час, што для мяне каханне, з кім сябрую, у чым бачу шчасце і г.д.? Многае з майго жыцця, з жыцця маіх родных прасіў напісаць для яго.

Нягледзячы на тое, што я вучылася на гістарычна-філалагічным факультэце (рускае аддзяленне), я з ім размаўляла толькі на роднай беларускай мове. Дома ў нас у хаце гучала толькі беларуская мова. Мае бацькі лічылі сябе ліцвінамі. Мая мама Ефрасіння, якую ў мястэчку Даляtычы называлі Еўфрасінняй Полацкай, арганізоўвала правядзенне розных святаў, пісала для гэтага сцэнарыі, рабіла дэкарацыі, шыла касцюмы... Пад яе кіраўніцтвам адбываліся пастаноўкі "Пінскай шляхты" В.Дуніна-Марцінкевіча, "Паўлінкі" Я.Купалы і іншыя. Там мама заўсёды выконвала галоўныя ролі. Пастаноўкі ішлі ў памяшканні пажарнай часці, таму што ніякіх клубаў, святліц не было. Але людзі ішлі з цікавасцю, хаця і сядзець там не было на чым, даводзілася стаяць.

У нашай хаце спявалі беларускія песні. У мамы быў прыгожы голас і тонкі музычны слых. Быццам сёння чую яе "Зорку Венеру". Брат мамы Кастусь Шарэйка быў адным з вядучых салістаў у хоры Р.Шырмы. Дзядзька сябраваў з Я.Брылём, У.Караткевічам, М.Васільком. К.Шарэйка ніколі не здрадзіў сабе, сваім бацькам, народу: ён пры любой уладзе (польскай, савецкай, нямецкай) гаварыў толькі на роднай беларускай мове. Ён добра ведаў беларускую гісторыю, літаратуру. Яго дачушкі Люба, Вера і Вольга ў дзяцінстве называлі яго "кніжачка", а як падраслі — "энцыклапедыя хадзячая". Пра яго і яго сяброў успамінае ў сваёй кнізе "Усё чалавечае" У.Калеснік.

Мама мая вышывала беларускія нацыянальныя сарочкі нашаму бацьку Уладзіміру Рымару і свайму брату Кастусю. Беларускія строі былі ў мамы, у мяне і ў маёй сястры Лілі.

Я ганаруся, што мае карані глыбока сядзяць у маёй беларускай свядомасці. Яны адтуль — з сям'і. Я ганаруся, што А.Карпюк нагадаў мне ў інстытуце, што я — беларуска. І вось гэты мост, перакінуты праз усё маё жыццё, застаўся ўва мне назаўсёды. Застаўся. Вырас. Узмацніўся.

Мая памяць трымае і такі выпадак. У інстытуце я была пастаянным членам НСТ (навуковага студэнцкага таварыства) і членам клуба "Праметэй", якім кіравала Іна Рыданава. Аднойчы сябры гуртка атрымалі заданне напісаць рэферат "Образ любимого учителя". А.Карпюк параіў мне пісаць толькі на роднай мове. На Рэспубліканскім конкурсе мой рэферат заняў першае месца. Мяне ўзнагародзілі Пахвальнай граматай, і я атрымала ў падарунак кнігі В.Сухамлінскага і А.Макаранкі. Мяне рыхтавалі ў аспірантуру, але я выбрала школу. Гэта маё прызванне.

Так складваліся абставіны, што жыццёвыя пуцявіны мае і А.Карпюка нейкім чынам час ад часу перасякаліся. Былі мы з ім членамі лектарскай групы Гродзеншчыны: я — з лекцыяй, а Аляксей Нічыпаравіч — са сваёй тэматыкай у настаўніцкіх калектывах, у школах, тэхнікумах, вучылішчах, сярод працоўнай моладзі.

Ён, вялікі падзвіжнік, спяшаўся, і я ў яго вучылася даць патрэбны стымул, каб беларусы не забываліся пра сваё паходжанне. Заставаліся сапраўднымі патрыётамі, каб ганарыліся сваёй мовай і бераглі яе.

...Яго "Вершалінскі рай" — вечная вера ў людзей, у шчасце, збавенне ад цемры і беспрасвецця. У герояў аповесці — душы чыстыя, сэрцы светлыя. Але ж і вера натыкаецца часам на падман, здраду, расчараванне. "Вершалінскі рай" паказвае, да чаго можа давесці народ невыносны нацыянальны прыгнёт, якое атрутнае зелле можа вырасці на глебе духоўнай спустошанасці.

А.Карпюк сам перажыў здраду, правакацыю, падман. Ён часта апынаўся ў тупіку ў сваёй краіне. Але ішоў, як кажуць, напралом. Чыноўнікі-партыйцы, якія яго баяліся, прыкладвалі нямала сіл, каб знішчыць яго маральна, каб выбіць з яго рук смелае пяро. Пяро праўды.

Чытаючы А.Карпюка, я лаўлю сябе на думцы: не толькі ён сам прырос да Беларусі, але і Беларусь моцна ўрасла ў яго сэрца, у яго жыццё. Яго духоўная, асабліва ў грамадзянскай іпастасі, вышыня была ў ім з дня нараджэння і да апошняга імгнення на зямлі. Бацькаўшчына! Родныя мясціны — гэта тое, што ёсць у кожнага. Радзіма ніколі не старэе, нават разам з намі. Яна заўсёды маладая, прыгожая, дарагая і любімая сваімі годнымі дзецьмі. А ад нас яна чакае і нават патрабуе не страціць сябе, ганарыцца сваёй мовай, з якой мы нарадзіліся і з якой павінны годна прайсці свой жыццёвы шлях.

Аляксей Нічыпаравіч Карпюк пакінуў нам урокі мужнасці, дабрыні, велічы духу. Яго словы, народжаныя ў пакутах і турботах вялікага сумленнага сэрца, загартаванага ў полымі пераменлівага жыцця, часта несправядлівага да пісьменніка, святло яго душы, яго кнігі — мужная водпаведзь антыпатрыётам і здрадцам сённяшняга дня.

...Неяк, едучы ў аўтобусе, я здзівілася, убачыўшы цераз акно каля палаца "Юность" велізарны фотаздымак, хутчэй — фотаплакат пад шклом у вялікай раме. На тым фотаплакаце — А.Карпюк за кафедрай. Пэўна, нешта чытае. А я там — насупраць яго. Нешта важнае, сказанае ім, запісваю... Некалькі месяцаў пад дажджом, ветрам, сонцам і снегам чытаў і чытаў Аляксей Нічыпаравіч сваім землякам-гродзенцам. Шкада, што не было на тым, як цяпер кажуць, банеры букеціка васількоў. Вечная светлая памяць нам аб вялікім Чалавеку, пісьменніку і грамадзяніну Аляксею Нічыпаравічу Карпюку!

**Роза РЫМАР.**








З бацькамі. 1930-я гады.



Навучэнцы Навагрудскай педвучэльні. Чэрвень 1941-га.



Янка Брыль і Аляксей Карпюк.



З Васілём Быкавым.

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ

# Готовил ли Сталин «Брестский мир-2»

***Как-то мне попалось на глаза интервью сына Никиты Сергеевича Хрущева — Сергея Хрущева. Как известно, он человек серьезный, известный конструктор, лауреат многочисленных наград и премий, причем полученных не благодаря известному отцу, а вопреки этому. Именно поэтому в интервью Сергея Никитовича меня заинтересовал вот какой момент: он утверждает, что в начале войны Сталин готов был пойти на сделку с Гитлером и отдать немцам Украину и Беларусь в обмен на то, что они остановят наступление. Есть ли еще какие-либо свидетельства существования таких планов?***

**Виктор Иванович БАРАНОВСКИЙ, г.Минск.**

Такие свидетельства есть.

На такие намерения, например, намекает Павел Судоплатов в своей книге "Спецоперации. Лубянка и Кремль. 1930—1950-е годы". Напомним, что Судоплатов — советский разведчик, генерал-лейтенант МВД, человек, который возглавлял отдел, курировавший в СССР разработку атомной бомбы.

*"В изнурительных боях под Смоленском была остановлена танковая армия генерала Гудериана. Росло разочарование в германском верховном командовании, вызванное недостаточно быстрыми темпами продвижения немецких войск в июле 1941 года, о чем сообщил из Берлина Арвид Харнак ("Корсиканец"). 25 июля Берия приказал мне связаться с нашим агентом Стаменовым, болгарским послом в Москве, и проинформировать его о якобы циркулировавших в дипломатических кругах слухах что возможно мирное завершение советско-германской войны на основе территориальных уступок. Берия предупредил, что моя миссия является совершенно секретной. Имелось в виду, что Стаменов по собственной инициативе доведет эту информацию до царя Бориса".*

Видимо, требует объяснения тот факт, что упоминается болгарский посол. Для историков тут как раз все понятно: дипломатические отношения между Германией и СССР в то время были разорваны, и все контакты осуществлялись именно через посольство Болгарии.

Оставил свидетельство насчет того, что подобные планы имелись, и Валентин Пикуль, автор многочисленных художественных произведений на историческую и военно-морскую тематику, который много работал в архивах и лично встречался со многими прославленными военачальниками. В своей книге "Барбаросса" он пишет:

*"Много лет назад, когда я занимался написанием документальной трагедии "Реквием каравану PQ-17", я обратил внимание на одно странное обстоятельство. С весны 1942 года Уинстон Черчилль, всегда любивший выпить, пил много больше нормы, при этом он, будучи в сильном подпитии, часто вызывал нашего посла Майского, спрашивая его всегда об одном и том же:*

*— Ну, так когда же ваш мудрый Сталин собирается заключать с Гитлером новый вариант Брестского мира?*

*Конечно, наш посол доказывал Черчиллю обратное: мол, советский народ настроен сражаться до окончательной победы над фашизмом, — но Черчилль не очень-то ему верил. Тогда же он задерживал отправку в СССР союзного каравана PQ-17, делая это умышленно, так как, смею полагать, британская разведка уже оповестила его о "тайнах Кремля". Черчилль попросту боялся, как бы военные грузы поставок по ленд-лизу, доставленные в Мурманск, не оказались у... немцев.*

*В чем дело? Наверное, Черчилль имел основания подозревать Сталина в желании примириться с Гитлером. Но эта история имеет таинственный пролог, сугубо засекреченный на долгие годы. Суть его в следующем. Еще в июле 1941 года, когда наша армия, оставляя в котлах уже миллионы окруженцев, откатывалась от границ, а немцы через неделю вошли в Минск, в это время Сталин совсем растерялся, его воля была полностью парализована, он не думал теперь о государстве, а помышлял лишь о том, как бы ему удержаться на кремлевском престоле. Укрываясь от ответственности за поражение на своей даче в Кунцеве, он принимал у себя только Молотова и Берию.*

*Эта вот "троица", далеко не святая, пришла к выводу, что их может спасти только капитуляция перед Гитлером, они заранее соглашались на любые условия мира — какие бы из Берлина ни предложили, только бы задержать танковый разбег вермахта. Интересы Германии в Москве тогда представляло посольство Болгарии, и эта "троица" навестила посла Ивана Стаменова. Сталин отмалчивался, говорил Молотов, убеждая Стаменова связаться с Берлином.*

*— Если великий Ленин, — таков был примерно смысл слов Молотова, — если даже он пошел на сговор с кайзером, то мы сейчас тоже согласны на мир с Германией...*

*При этом, чтобы ублажить Гитлера, эта "троица" соглашалась уступить Германии всю Прибалтику, Молдавию и западные области Украины и Белоруссии, прилегающие к Польше, уже покоренной немцами. Чудовищно! Но болгарский посол верил в Россию и в русский народ гораздо больше, нежели эти партийные боссы, приехавшие к нему из Московского Кремля.*

*— Успокойтесь! — отвечал он. И, наверное, я так думаю, отвечал даже с презрением. — Какова бы ни была мощь Германии, все равно ей никогда не сломить Россию, никогда не удастся покорить великий русский народ. Быть посредником в этом вашем позоре, — сказал Стаменов, — я отказываюсь, уверенный, что даже если ваша армия отступит до Урала, все равно победа будет за вами...*

*Капитуляция Сталина перед Гитлером — это еще не разгаданная тайна".*

Наконец, достаточно подробные свидетельства на сей счет оставил историк Дмитрий Волкогонов в книге "Сталин". Он пишет:

*"Кульминацией психологического шока Сталина была его реакция на известие о падении Минска. Прочитав утреннюю сводку Генштаба, Сталин уехал к себе на дачу и почти весь день не появлялся в Кремле. К нему отправились Молотов и Берия. Нет данных, о чем говорила "святая троица". Но Сталин с трудом мог воспринять мысль, что почти через неделю после начала войны столица Белоруссии оказалась под пятой захватчика. И здесь я хотел бы поведать читателю один факт, в достоверности которого у меня не было и нет полной уверенности, но вероятность которого отрицать нельзя.*

*Во второй половине 70-х, где-то в 1976-м году, я был включен в состав инспекторской группы, возглавляемой маршалом Советского Союза К.С.Москаленко. Несколько дней мы были в Горьком. Вечерами я докладывал маршалу о ходе проверки состояния партийно-политической работы в инспектируемых частях. После этого несколько раз завязывался разговор о воспоминаниях Москаленко, его взглядах на некоторые вопросы отечественной истории. Однажды во время такой беседы я задал маршалу вопрос, долго мучивший меня:*

*— Кирилл Семенович, почему вы в своей книге не упомянули факт, о котором рассказали на партактиве около двух десятков лет тому назад? Вы сами уверены, что это все было?*

*— Какой факт, о чем вы? — подозрительно и настороженно посмотрел на меня маршал.*

*— О встрече Сталина, Молотова и Берии с болгарским послом Иваном Стаменовым в июле 1941 года.*

*Москаленко долго молчал, глядя в окно, затем произнес:*

*— Не пришло еще время говорить об этих фактах. Да и не все их проверить можно...*

*— А что вы сами думаете о достоверности сказанного Берией?*

*— Все, что он говорил по этому делу, едва ли его хоть как-то оправдывало... Да и трудно в его положении было тогда выдумывать то, что не могло помочь преступнику...*

*Чтобы читателю было понятно, о чем идет речь, я приведу отрывок из одного документа. 2 июля 1957 года состоялось собрание партийного актива Министерства обороны СССР, обсудившего письмо ЦК КПСС "Об антипартийной группе Маленкова, Кагановича, Молотова и др.". Доклад сделал Г.К.Жуков. Выступили крупные военачальники И.С.Конев, Р.Я.Малиновский, Ф.Ф.Кузнецов, М.И.Неделин, И.Х.Баграмян, К.А.Вершинин, Ф.И.Голиков, К.А.Мерецков, А.С.Желтов и другие. Когда слово взял К.С.Москаленко, он, в частности, сказал:*

*"В свое время мы с Генеральным прокурором тов. Руденко при разборе дела Берии установили, как он показал... что еще в 1941 году Сталин, Берия и Молотов в кабинете обсуждали вопрос о капитуляции Советского Союза перед фашистской Германией — они договаривались отдать Гитлеру Советскую Прибалтику, Молдавию и часть территории других республик. Причем они пытались связаться с Гитлером через болгарского посла. Ведь этого не делал ни один русский царь. Характерно, что болгарский посол оказался выше этих руководителей, заявил им, что никогда Гитлер не победит русских, пусть Сталин об этом не беспокоится". ...Не сразу, но Москаленко разговорился... Во время этой встречи с болгарским послом, вспоминал маршал показания Берии, Сталин все время молчал. Говорил один Молотов. Он просил посла связаться с Берлином. Свое предложение Гитлеру о прекращении военных действий и крупных территориальных уступках (Прибалтика, Молдавия, значительная часть Украины, Белоруссии) Молотов, со слов Берии, назвал "возможным вторым Брестским договором". У Ленина хватило тогда смелости пойти на такой шаг, мы намерены сделать такой же сегодня. Посол отказался быть посредником в этом сомнительном деле, сказав, что "если вы отступите хоть до Урала, то все равно победите".*

*— Трудно сказать и категорично утверждать, что все так было,- задумчиво говорил Москаленко. — Но ясно одно, что Сталин в те дни конца июня — начала июля находился в отчаянном положении, метался, не знал, что предпринять. Едва ли был смысл выдумывать все это Берии, тем более что бывший болгарский посол в разговоре с нами подтвердил этот факт.*

*Есть тайны и мистификации. Я привел устное и документальное свидетельство, сохранившееся в архивах. Является это тайной истории или мистификацией — я на этот вопрос ответить не в состоянии. Но одно не вызывает сомнения: будучи "придавленным" реальностями страшного бытия, Сталин в первые две недели войны явно не проявил того "величия духа", о котором так долго и настойчиво твердили после Победы наши историки и писатели".*

Обратите внимание, Дмитрий Волкогонов утверждает, что в архивах даже остались какие-то документы. Так неужели еще не пришло время для написания правдивой истории той великой войны и великой победы?

**Елена НОВИКОВА.**

МАЗАІКА

## Інтрыга захоўваецца

*У чэмпіянаце Беларусі па футболе барысаўскі БАТЭ зрабіў добрую заяўку на чарговае чэмпіёнства, а кола прэтэндэнтаў на бронзавыя медалі звузілася да трох каманд.*

Паводле вынікаў 29-га тура футбольнага чэмпіянату краіны, які прайшоў у мінулыя выхадныя, кола прэтэндэнтаў на бронзавыя медалі звузілася да трох каманд. Тэарэтычныя шанцы страціў "Гомель", які саступіў дома "Тарпеда-БелАЗу" з Жодзіна — 0:1.

Акрамя жодзінцаў на трэцяе месца прэтэндуюць салігорскі "Шахцёр" і наваполацкі "Нафтан", якія ў гэтым туры сустракаліся адзін з адным і мячоў не забілі.

А ў цэнтральным матчы тура чэмпіён і лідар БАТЭ абыграў у гасцях найбліжэйшага праследавацеля — мінскае "Дынама" — з лікам 2:1.

Становішча каманд першай шасцёркі: БАТЭ — 64 ачкі, "Дынама" (Мн) — 60, "Шахцёр" — 45, "Тарпеда-БелАЗ" — 43, "Нафтан" — 42, "Гомель" — 35.

У другой шасцёрцы брэсцкае "Дынама" дома згуляла ўнічыю з "Дняпром" (Магілёў) — 1:1, "Слуцк" на сваім полі абыграў бабруйскую "Белшыну" — 3:1, а "Мінск" быў мацнейшы за гродзенскі "Нёман" — 2:1.

Становішча каманд: "Мінск" — 43, "Слуцк" — 39, "Нёман" — 33, "Белшына" — 28, "Дынама" (Бр) — 26, "Днепр" — 18.

Наступны тур пройдзе 8 і 9 лістапада: "Шахцёр" — "Гомель", "Тарпеда-БелАЗ" — "Дынама" (Мн), БАТЭ — "Нафтан"; "Днепр" — "Мінск", "Белшына" — "Дынама" (Бр), "Нёман" — "Слуцк".

Між тым ужо стала вядома, што мазырская "Славія" і "Граніт" з Мікашэвічаў датэрмінова заваявалі правы выступаць у вышэйшай лізе.

## Беларускія гандбалісты перамаглі ў гасцях літоўцаў

*У другім матчы адборачнага турніру мужчынскага чэмпіянату Еўропы па гандболе 2016 года беларуская зборная 2 лістапада выйграла на выездзе ў Літвы — 30:28.*

У стартавым паядынку 29 кастрычніка каманда Юрыя Шаўцова згуляла дома ўнічыю (25:25) з Босніяй і Герцагавінай. На наступны дзень Данія выйграла ў родных сценах у Літвы — 31:21, а 2 лістапада — у Босніі і Герцагавіны на яе пляцоўцы — 25:23.

Становішча каманд пасля двух тураў: Данія — 4 ачкі, Беларусь — 3, Боснія і Герцагавіна — 1, Літва — 0.

Наступны матч Беларусь правядзе дома 29 або 30 красавіка 2015 года супраць Даніі.

У фінальную частку ЧЭ-2016 выходзяць дзве лепшыя каманды кожнай з сямі адборачных груп, а таксама лепшая трэцяя зборная.



ПЕРСОНА

*Александр ЕФИМОВ:*

# «Выигрывает спортсмен, а проигрывает всегда тренер»

*Александр ЕФИМОВ — тренер дисквалифицированной легкоатлетки Надежды Остапчук — рассказывает "Народной Воле" о тяжелой тренерской доле, допинговых скандалах, своей дисквалификации и о том, почему его не прельщает работа в Китае.*



...Сначала была золотая медаль толкательницы ядра Надежды Остапчук на Олимпиаде-2012. Затем грянул скандал. В пробе, взятой у Надежды, был обнаружен запрещенный препарат, медаль пришлось вернуть. Дальше — больше. На специальной пресс-конференции руководитель Национального антидопингового агентства Александр Ванхадло сделал сенсационное заявление: "Запрещенный препарат в пищу Надежды Остапчук подсыпал ее тренер Александр Ефимов".

В эту детскую версию, конечно, мало кто верил, но итог оказался безрадостным — и тренер, и спортсменка оказались дисквалифицированными...

Впрочем, сегодня опальный тренер находит плюсы даже в своей дисквалификации: *"Хоть восстановлю здоровье, которое подорвал за последние 30 лет работы".*

## «В 1980-е я получал, как кандидат наук...»

**— Александр Николаевич, какой у вас тренерский стаж?**

— Около 40 лет.

**— Свой первый тренерский опыт помните?**

— Это было во времена, когда еще спортсменом выступал. Я физмат закончил, так что некоторые моменты начал проверять на себе. К существующей в литературе методике толкания ядра добавлял собственные знания по физике. И составил программу, которая начала давать результаты. Позже работал тренером в Германии, развивал армейский спорт. При Союзе военные округа выставляли свои команды на армейские чемпионаты. Люди год готовились, чтобы отработать свою зарплату и достойно выступить на первенстве Вооруженных сил, которое по силе мало чем уступало союзному.

**— Зарплата у спортсменов приличная была?**

— Не очень — 120—150 рублей. Но дополнительно давали на питание, этого хватало, чтобы жить и тренироваться. Тренер, естественно, получал больше, чем спортсмен. Помню, когда в 1984 году мой ученик Сергей Каснаускас выиграл международный турнир "Дружба-84", я стал зарабатывать, как кандидат наук, — 320 рублей. Это большие деньги по тем временам, тогда ставка инженера была около 120 рублей. Это, кстати, был мой самый первый тренерский успех.

**— На Каснаускасе тоже опробовали свои методики?**

— Конечно! Парень падал на колени, хрипел, говорил: "Тренер, я так больше не могу". Но мы своего достигли, шли к результату семимильными шагами. Сергей начинал с 17 метров, а затем толкнул ядро на 22.09. Рекорд Советского Союза! Да, у меня жесткая методика, но когда смотришь спортсмену в глаза, то видишь его возможности. Потому что у самого человека есть три степени защиты. Сам он может пройти только первую. Преодолеть вторую поможет тренер. А к третьей, наверное, еще не приближались, потому что возможности человеческие все-таки не беспредельны. Так вот Сергей Каснаускас у меня лежа выжимал 300-килограммовую штангу и приседал со штангой в 260 килограммов. По нынешним меркам это вроде и немного, но тогда... Зная возможности этого человека, я его грузил.

**— А были такие, кто нагрузок не выдерживал и уходил из спорта?**

— Не без этого. В то время были группы по 8—10 человек — из разных обществ приходили, студенты, военнослужащие... Но меня малые зачетные результаты не интересовали. Каждый спортсмен шел своим путем, но под один трафарет я всех не подгонял. К каждому нужен свой подход.

**— Другие тренеры не применяли ваши методики?**

— Самое парадоксальное в том, что из коллег методиками интересовались всего 2—3 человека. У всех остальных на голове, наверное, корона королевская. Они все знают и все умеют сами. Не хотят использовать полезный опыт, потому что считают так: у меня есть парень, который станет олимпийским чемпионом. Да никем он не станет, потому что если тренер, как Иван Сусанин, не знает, куда ведет спортсмена, то что получится на выходе? Тупик! Тренер в первую очередь — это двигатель. Он нацеливает ученика на результат.

## «Лучше быть первым на деревне, чем последним в городе»

**— Александр Николаевич, как вы восприняли развал Союза?**

— Нормально воспринял, потому что с распадом СССР появилось гораздо больше возможностей. Раньше, чтобы твой воспитанник попал на чемпионат Европы или мира, надо было пройти такой отбор, что вам и не снилось. Конкуренция — огромнейшая! А в своей маленькой суверенной стране уже проще занять призовые места и отправиться на ту же Олимпиаду. Правда, плохо, когда едут туристы, занимающие энные места. Вот не так давно на чемпионат мира по легкой атлетике в Москве белорусская команда повезла 27 человек и провалила первенство. А я тогда в глаза сказал главному тренеру нашей сборной: "Не вези столько. Ты останешься крайним, если не будет результата. А его не будет". Не послушал. Тренер отправлен в отставку. Я скажу так: лучше вообще не участвовать в соревнованиях, чем занимать там последние места. Лучше быть первым на деревне, чем последним в городе.

**— После развала страны многие тренеры остались без работы...**

— Меня это не затронуло, я остался на высоте. Некоторые уезжали за границу, тогда был большой отток советских специалистов, которые котировались везде. Но я 5 лет прожил в Германии, меня это уже не прельщало. Где родился, там и пригодился, а за длинным рублем я не ездил ни в одну страну.

**— В суверенной Беларуси как набирали учеников?**

— Сами как-то приходили. Общался с тренерами, спортсменами... Старался показать им перспективы. Вот показал Наде Остапчук ее путь — и результаты появились. Ее тренер тоже молодец, решил жизнь девушке не портить и отпустил из Бреста в Минск, хотя мог и не делать этого. И за 15 лет Надя на разных крупных международных первенствах завоевала более 25 (!) медалей. Вы не найдете в метательных дисциплинах больше такого человека!

## Слава и скандалы

**— А с Яниной Корольчик, которая в 2000-м стала олимпийской чемпионкой, как пересеклись ваши пути-дороги?**

— Когда Яна уже была в призерах среди юниоров и на молодежном чемпионате Европы, ее решили перепрофилировать на метание диска. И тут беда — умирает тренер! Яна осталась одна в Минске, я своевременно подставил плечо. Поговорили с ней, с руководством, она пошла ко мне тренироваться. И уже буквально через два года сделала то, что могла сделать, — выиграла чемпионат мира и Олимпиаду. Потенциал у нее был огромный!

**— Победа на Играх — это и ваш успех...**

— Когда мы обратно летели из Сиднея, в самолете журналисты даже не знали, что я — тренер Корольчик. Не люблю публичности. В моем представлении наставник спортсмена — это человек за кадром. В лучах славы тот, кто победил. Говорят же: выигрывает всегда спортсмен, а проигрывает всегда тренер. Но я свое место знал и никогда не обижался.

**— Была уверенность, что Яна победит на Олимпиаде?**

— Я знал это. Она была очень сильна и физически, и психологически. Так же, как и на чемпионате мира 2001 года. Но после олимпийского триумфа Яну стали приглашать на разные мероприятия. Встречи, поездки, беседы... Проходит сентябрь, октябрь, наступает ноябрь — она все ездит. И я тогда сказал: "Или тренируемся, или расходимся. А если приходишь на тренировку, то приходи простой спортсменкой, а не олимпийской чемпионкой". Все! Мы снова занялись работой, а в следующем году она выиграла чемпионат мира. Позже у Яны начались проблемы со здоровьем, она выпала из обоймы...

**— А в 2003 году Янина Корольчик была дисквалифицирована за употребление допинга.**

— Я до сих пор уверен, что тогда ей подсыпали в еду кленбутерол. Мы тренировались в "Стайках", там каждый знал, где у кого какое место в столовой. Не составляло труда прийти пораньше в столовую и сделать свое черное дело. При Союзе, кстати, такое тоже практиковалось. Кленбутерол — это растворимая жидкость без цвета и запаха. Можно было просто из баллончика пшикнуть в стакан. И не важно, сколько вещества обнаружат в организме. Главное, что оно есть.

**— Значит, это могли сделать свои?**

— Безусловно, завистников же хватало.

**— Давайте вернемся к ситуации с Надеждой Остапчук. Ничего сегодня не хотели бы рассказать?**

— Отвечу так: я не из тех людей, которые в первую очередь спасают свою шкуру, а спортсмена топят. Комиссия по снижению наказаний Международной федерации легкой атлетики, которая 10 месяцев рассматривала мои признательные документы, написала, что, мол, мы не верим, что это было именно так, как вы рассказали, но доказать это не можем. Добавили: разрешаем Белорусской федерации легкой атлетики вынести окончательное решение. Попросили уважительно отнестись к проблеме Надежды Остапчук. Какое бы вынесли наказание своим?

**— Наверное, минимальное...**

— Правильно, а они вынесли максимальное! Если человек не виноват, то он может получить и 6 месяцев дисквалификации. Белорусская федерация во главе с Потупчиком в 2012 году просила наказать Надю годичной дисквалификацией, но затем произошла смена руководства, и Федерация под руководством Косяченко в 2013 году вынесла ей приговор по максимуму — 4 года. Вот вам и справедливость! Федерация, которая, казалось бы, должна защищать спортсменов, их же отправляет ко дну. Видимо, тем людям, которые принимали решение, не нужны ни Ефимов, ни Остапчук, ни медали. Только палки в колеса вставляют.

**— Кто конкретно?**

— Я не могу сегодня все рассказать. Если стопроцентных доказательств нет, то и разговора нет.

**— Надя вернется в большой спорт?**

— А кто будет инициатором этого возвращения? Дисквалифицированный на 4 года тренер? Или подать в суд в Лозанну на Белорусскую федерацию легкой атлетики?

## «Думаете, Фелпс на картошке мировые рекорды устанавливает?..»

**— Сегодня говорят, что "кушают" все спортсмены, но не все успевают вывести из организма препараты. Вот и попадаются...**

— Есть современные разрешенные препараты, которые дают возможность человеку не развалиться при существующих нагрузках. Это как в притче о человеке, который год пахал поле вдоль и поперек, а на нем ничего не росло. Почему не росло? Да потому что мало пахать — надо еще и сеять. Так и в спорте. Миллионы спортсменов тренируются, но не все достигают вершин. У кого-то фармакология более сильная, кто-то работает по уникальной методике... В Беларуси никто на спортивную медицину не работает. Нет доступа к современной фармакологии, вот и пользуются теми препаратами, которые есть в Украине, странах Балтии, Москве. А там и запрещенные подделки, и "химия", которая использовалась 10—20 лет назад. Но сейчас следы допинга могут обнаружить и через такой срок. У нас не каждый спортсмен может заплатить за одну ампулу, которая стоит 3 тысячи долларов. А таких ампул нужно 20—30 на сезон.

**— Вы говорите о разрешенных препаратах?**

— Безусловно. Посмотрите, как Майкл Фелпс плавает! Вы что, думаете, он на картошке мировые рекорды устанавливает? И Болт, аки птица, летает. Была информация, что его однажды хотели проверить на допинг, но не нашли на Ямайке. Хотя спортсмен должен расписывать свой день по минутам, чтобы антидопинговая служба знала, где ты в определенный момент будешь находиться. Вот такое у нас сегодня слежение за спортсменами. Хочешь выступать — подчиняйся правилам.

**— Сейчас многие молодые белорусские легкоатлеты тоже попадаются на допинге...**

— Так интернет же пестрит объявлениями, хотя в России запрещенные препараты уже приравняли к наркотикам. Есть молодые, глупые... Зачем ему годами мышцы наращивать, если он может этого за месяц достичь, сделав укол? Каждый хочет вершин и достижений. Кто-то для района, кто-то для области, кто-то для страны... Пути выбирают не совсем честные, но хотят все. На некоторые таблетки закрыт доступ даже в аптеках, но сегодня при желании можно достать все. Кто-то тренера ставит в известность, кто-то нет... Вот хотят ввести суровую ответственность и для тренера. А ведь это палка о двух концах. Например, сказал я парнишке, что он слабый. Тот обиделся и обозлился. Принял запрещенные препараты, сказал, что тренер дал. Тренера в тюрьму сажать? Это очень деликатный вопрос.

## «Уже два года я никому не нужен»

**— Александр Николаевич, недавно председателем Белорусской федерации легкой атлетики избран бывший метатель молота Вадим Девятовский.**

— Ему до сих пор допинговый скандал вспоминают, значит, не всем нравится, что выбрали Вадима. Есть люди, которые хотят профессионалов со своего пути убрать. С дилетантом проще намутить воду, чтобы затем в этой воде рыбу ловить. А рыба — это деньги. И вокруг спорта крутятся большие деньги.

**— Говорят, что легкая атлетика — бедный вид спорта. Это так?**

— Для того, чтобы участвовать в чемпионате мира по тяжелой атлетике, белорусы должны заплатить взнос. А у нас, когда участвуешь на мировом первенстве, Международная федерация легкой атлетики платит за тех, кто попал в восьмерки. Помогает материально юниорам, молодежи и взрослым. Чем плохой вид? Хотя, с моей точки зрения, в Беларуси легкая атлетика постепенно уходит в небытие.

**— Может, Девятовский возродит ее?**

— Один он не справится. А как старая команда сможет работать по-новому? Если люди в первую очередь интересуются зарплатой, а не работой, то это уже не работник. Надо, чтобы работали увлеченные. Повторюсь, спорт высших достижений, как и фармакология, ушли от нас на 10—20 лет вперед. Мы — в хвосте. Да, у любой нации есть самородки, но их нужно найти и огранить. Тогда он заблестит. Тренер — тот же огранщик. Он берет простую стекляшку и делает из нее алмаз. Но как сегодня заниматься большим спортом, если у тебя нет финансовой поддержки? Так что я не сказал бы, что легкая атлетика у нас деградировала. У нее нет тех возможностей, чтобы быть на первых ролях. После развала Союза мы пошли своим путем, используя белорусские резервы, но сейчас пришли к какому-то промежуточному финишу. И нужно что-то менять, иначе мы перейдем на физкультуру и Всебелорусские олимпийские игры.

**— Вы отбыли уже 2 года дисквалификации...**

— Да, отсчет начался с сентября 2012 года. В Беларуси я не имею права заниматься тренерской деятельностью, но вот вопрос: почему никто не захотел использовать меня хотя бы в качестве инструктора или помощника? У нас что, 40 специалистов на вакантное место освободилось?

**— Чем вы сейчас занимаетесь?**

— Я — пенсионер. Укрепляю свое здоровье, не отказываю в методической помощи тем, кто просит. Но помогаю лишь коллегам. Влезать третьим между спортсменом и его тренером никому не рекомендую, и сам никогда этого не делал. Мог бы, конечно, поехать на работу в другую страну. Например, приглашали в Китай, но я тактично отказался. Называешь сумму в 15—20 тысяч долларов в месяц — и сразу отстают. Просто знаю, что в легкой атлетике никто таких денег не даст. Да и зачем мне готовить конкурентов для своей страны?

**— После того, как закончится дисквалификация, снова начнете работать тренером?**

— Не думаю. Если я уже два года никому не нужен... У меня в этой жизни не так много времени осталось, чтобы лепить новых олимпийских чемпионов. Мне 65 лет, надо восстанавливать здоровье, потерянное за 30 лет работы.

**Алесь СИВЫЙ.**
**Фото Владимира ИВАНЕВСКОГО.**

ВІНШУЕМ!

# Вячаслаў Харанека стаў найлепшым гіравікам планеты

*Беларускі асілак **Вячаслаў Харанека** на чэмпіянаце свету і Еўропы па гіравым спорце, які прайшоў у Магілёве, зноў стаў найлепшым гіравікам планеты.*



Суддзі зафіксавалі новы сусветны рэкорд Харанекі, які ў хуткасным пад'ёме 16-кілаграмовай гіры за 10 хвілін штурхнуў снарад 520 разоў, пабіўшы тым самым уласны рэкорд у 508 уздымаў.

Рэкорд даўся вельмі няпроста, распавядае 53-гадовы беларускі асілак:

*— Тэмп я, канешне, цісնуў вельмі высокі адразу, я ішоў у тэмпе 52 разы ў хвіліну. Руку нават не мог падняць 5 хвілін, а пасля сутаргі ў нагах пайшлі з 7-й да 9-й хвіліны, я проста цярпеў. Калі ўжо засталася адна хвіліна, каб устанавіць агульны рэкорд, тэмп, канешне, у другой палове дыстанцыі скінуў, бо, калі б працягваў у такім дзікім тэмпе, як першыя 5 хвілін, я проста не вытрымаў бы і раней гіру кінуў.*

Вячаслаў Харанека — шматразовы рэкардсмен свету ў гіравым спорце, неаднаразовы чэмпіён і ўладальнік Кубка СССР, СНД, Рэспублікі Беларусь, аўтар 146 афіцыйных сусветных рэкордаў у экстрэмальным уздыме цяжараў, шасціразовы рэкардсмен Кнігі рэкордаў Гінеса. Нягледзячы на свой ужо сталы ўзрост, Вячаслаў збіраецца і надалей радаваць публіку новымі рэкордамі, але ўсё часцей абірае ў якасці снарада ўжо не 24-кілаграмовую, а 16-кілаграмовую гіру.

ЧУЛІ?

## Аляксандр Кучынскі плануе стварыць каманду ў Беларусі

Беларускі велагоншчык **Аляксандр Кучынскі**, які нядаўна пакінуў расійскую „Катюшу", паведаміў, што збіраецца стварыць уласную велакаманду ў Беларусі для папулярызацыі гэтага віду спорту ў сваёй краіне.

*"Хачу дапамагаць маладым гоншчыкам і перадаць ім свой вопыт",* — сказаў Аляксандр Кучынскі.

Зараз каманда шукае спонсараў і галоўнага партнёра. Кучынскі спадзяецца, што праз некалькі гадоў калектыў будзе выступаць на кантынентальным узроўні.

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871. Тэл.рэкламнага аддзела: (017) 3286609, 3286906 nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info




Падпісныя індэксы: 63222 — для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый.

Першы намеснік галоўнага рэдактара Святлана Міхайлаўна КАЛІНКІНА

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 03.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 3.11.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25420 экз. Заказ №4592.